# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (402) | ГОД VIII | 10 ЛІСТАПАДА 1963 г. | ЦАНА 60 ГР


# Малады селянін

Маладыя сяляне. Адразу прыходзяць шырока распаўсюджаныя сумненні: дзе і колькі ёсць у нас гэтых маладых сялян? Бо моладзь жа ўцякае з вёскі, з гаспадаркі бацькоў!

Час ужо перагледзець такога роду сумненні, бо само жыццё, само развіццё рэчаіснасці на вёсцы ўносіць усё больш доказаў, якія супярэчаць гэтым шаблонным перакананням. Так, каля 30% сялян, «галоў» гаспадаркі, мае ўжо больш 60 год, 30% — мае 50—60 год, 15% — 45—50. Але ўжо кожная сёмая індывідуальная гаспадарка (больш 0.5 млн. гаспадарак) вядзецца маладымі сялянамі (да 34 год), і штогод тысячы гаспадарак пераходзяць у маладыя рукі.

Аднак статыстыка не адлюстроўвае якасных змен, якія маюць велізарнае гаспадарчае, грамадскае, а нават і палітычнае значэнне. Цяпер маладое пакаленне дасягае «вытворчага ўзросту» і пераймае сямейную гаспадарку ў асаблівы час — у перыяд «каньюнктуры» для сельскай гаспадаркі, карысных, заахвочваючых умоў для павелічэння сельскагаспадарчай прадукцыі, расшыраючайся механізацыі і пасняховага, хоць і нялёгкага, развіцця розных форм калектыўнага гаспадаравання ў сельскай гаспадарцы (сельгасгурткі, спулдзельні, розныя аб'яднанні). Хоць яшчэ маладыя застаюцца на вёсцы толькі з неабходнасці (не было каму працаваць на гаспадарцы, старыя бацькі, старэйшыя браты ці сёстры ў горадзе, а іншыя ящчэ малыя), але адносіны да працы на гаспадарцы ў моладзі ўжо іншыя, чым калісьці. «У поглядах дзяўчат і хлопцаў шмат ужо змянілася, — піша малады селянін у сваіх успамінах, узнагароджаных на конкурсе ПАН і ЗМВ. — У горадзе цяжэй з кватэрай і лепшай працай, не хочуць адразу прымаць «уцекачоў». Вёска змянілася на лепшае. Таму і погляд на тое, каб застацца, змяніўся на карысць вёскі. У іншым месцы: «Нарэшце ў польскай вёсцы робіцца нешта добрае і разумнае. На гаспадарцы конь ужо не з'яўляецца панам хлеба і аўса. Добра ідзе жывёлагадоўля, бо бацька прызвычайваецца да новых і лепшых умоў гаспадаравання. Розныя конкурсы, паказы, сходы, брашуры зрабілі сваё... На гаспадарцы застаецца ўжо не толькі «дурны, але моцны».

Пры азнаямленні з 2340 успамінамі, якія прыслала моладзь працуючая на гаспадарцы бацькоў або гаспадарачая самастойна, вырысоўваецца вельмі цікавая і аптымістычная карціна вобразаў, імкненняў і жыцця гэтага пакалення, якая дае магчымасць накрэсліць у агульных рысах штосьці накшталт «мадэлі» маладога селяніна нашага часу.

Перш за ўсё — крытычныя адносіны да такой гаспадаркі і такой вёскі, якая цяпер яшчэ існуе, імкненне да сучаснасці і мадэрнізацыі ў вытворчасці, да ўвядзення тэхнікі і новых, лепшых, больш прадукцыйных і аблягчаючых працу метадаў прадукцыі. Інтэнсіфікацыя прадукцыі, вядома, дадае працы («Хлеба маем ужо дастаткова, але хлеб, салёны ад поту, застравае ў горле», — з успамінаў № 2060), а гэта ў сваю чаргу робіць маладых гаспадароў прыхільнікамі механізацыі і калектыўных форм сельскагаспадарчай працы. Далей, вялікая патрэба сельскагаспадарчых ведаў («Некаторыя сцвярджаюць, што гаспадарыць не трэба вучыцца, што хопіць аднаго вопыту. Большасць маладых ведае, што гэта няпраўда»...) І нарэшце, найбольш разважлівыя даходзяць да пераканання, што неабходна ад асноў перабудаваць сельскагаспадарчы строй: «...спулдзельні не такія ўжо дрэнныя, толькі трэба вывесці з іх круцельства і балаган, тады ў іх будзе лепей гаспадарыць, чым індывідуальна». «Добра было б, каб і ў нас быў сельскагаспадарчы гурток. Ёсць некалькі ахвотных гаспадароў разам з маладымі спадчыннікамі. Большасць яшчэ баіцца, што калектыўнасць завядзе ў бяду і да страты ўласнай маёмасці. Растлумачваю, што калектыўная праца выдумана не цяпер, што калектыўнасць трэба разумець, удасканальваць і разумна ўводзіць у нашыя ўмовы...» — чытаем у іншых успамінах.

Недахоп месца не дазваляе падрабязна ахарактарызаваць новае пакаленне маладых сялян. Ясна адно: яго імкненні

Працяг на стар. 5



Дырэктар Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР, доктар тэхнічных навук, лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій Міхаіл Мацэпура.

Артыкул «Творцы новай тэхнікі» — стар. 6.

П'еса - ідэалогія

# ПРА АМБІЦЫІ

13 кастрычніка г.г. Вера Леўчук у дыскусійным артыкуле «П'еса — ідэалогія» ўзняла тэму выхаваўчага ўздзеяння п'ес на асяроддзе, патрабуючы высокаідэйных твораў. Сёння змяшчаем палемічны артыкул Сакрата Яновіча, які пашырае тэму, выходзячы за рамкі п'есы. Рэдакцыя лічыць, што варта было б паспрачацца шырэй аб рэпертуары мастацкай самадзейнасці і ахвотна дасць слова наступным дыскутантам. Просім.

Часта гаворым, што нідзе ў ваяводстве няма так моцна развінутай сеткі аматарскіх гурткоў, як у беларускіх вёсках. У доказ сваіх слоў сыплем лічбы і параўноўваем — сыплем лічбы і цешымся. Значыць, цешымся мы, актывісты Галоўнага праўлення БГКТ.

У радасці перастаем зусім разумець, як мізэрна дапамога Таварыства гэтым гурткам. Падсоўваем ім голы рэпертуар, без элементарнага інструктажа. Адбываюцца летнія курсы, на якія, як на зло, едуць пераважна якраз тыя, што не арганізоўвалі гурткоў і ніколі не будуць іх арганізаваць. Проста, маюць час у гарачае жніво і ўсё. Будзе ўжо паўтара года, калі эстрада «Лявоніха» пачала дапамагаць вясковым гурткам перад усім у спевах і музыцы. Да ўсяго вышэй успомненага трэба дадаць яшчэ адно: пад час апошняга з'езда БГКТ было сказана ўголас перад мнагалікім народам, што за мінулы сезон дапамога Таварыства аматарскаму руху ацэнена на мільён злотых. Ніхто аднак не высвятліў, што пад гэтым вялізным мільёнам трэба разумець кошты ўтрымання хору пры ГП, кошты папулярнай «Лявоніхі» (уборы, штаты, транспарт) і толькі дзесьці ў канцы віднеецца чатырох — пяцілікавая сума, прызначаная гурткам у вёсках (элімінацыі, конкурсы, падарункі).

Хтосьці, прачытаўшы мае словы, здзівіцца: чаго я шукаю прыдзіркі?! А ці ж сам факт масавых канцэртаў «Лявоніхі» не заахвочвае людзей тварыць у сябе мастацкія калектывы?

Працяг на стар. 5

НЭЛА ТУЛУПАВА

* * *

Я нікому цябе не аддам,
Нават самай-самай прыгожай...
Я знайду цябе па слядах,
Размінуцца з табой не зможам.
Кожнай стрэчнай табе
дзяўчыне, —
Прыгажуня яна ці не, —
Я усмешку сваю пакіну,
Каб нагадвала пра мяне.
А калі цябе стоміць дзень,
Прытулюся плячом к плячу,
Ты ад стомы не упадзеш,
Зможаш ты апору адчуць!

Я іду па тваіх слядах,
Размінуцца з табой не зможам
Я нікому цябе не аддам,
Нават, самай-самай
прыгожай



Беластоцкі сілікатны завод на Пятрашах пачаў даваць пробную прадукцыю. Пакуль што 40 000 штук цэглы ў дзень.

Уся цэгла адразу выкупліваецца, бо лічыцца добрым, танным і эстэтычным будаўнічым матэрыялам.

(Юр)

# У САЙГОНЕ ЗМЕНА ШЫЛЬДЫ

Пасля дзевяці год крывавага тэрарыстычнага ўладарніцтва ў Паўднёвым В'етнаме прэзідэнт Нго Дзінь Дзьем і яго сямейная кліка вымушаны былі адыйсці. Менавіта такое развіццё здарэнняў у гэтай кантраляванай амерыканцамі краіне можна было прадбачыць яшчэ некалькі месяцаў таму назад. І калі гэта не адбылося хутчэй, дык толькі таму, што арганізатары сайгонскага перавароту не мелі адпаведнага наследніка на месца Дзьема. Крыніцы падзення ўрада Дзьема заключаліся ў яго антынароднай, рэакцыйнай палітыцы. Зверская нянавісць да камунізма, які будуецца ў паўночнай частцы В'етнама, папіхала Дзьема ў напрамку праследванняў не толькі левых, але ўсіх прагрэсіўных рухаў грамадства. Узрастаючы тэрор не мог не выклікаць помсты. У Паўднёвым В'етнаме разгарнуўся патрыятычны народны партызанскі рух, які ў апошні час кантраляваў большую частку краіны.

Не могучы расправіцца з партызанамі, Дзьем звярнуўся за гаспадарчай і палітычнай дапамогай да Злучаных Штатаў Амерыкі. Нягледзячы на тое, што было гэта зараз пасля падпісання Жэнеўскага дагавору, Вашынгтон не адмовіў. На працягу 8 год, апрача 5 мільярдаў долараў, выданых на вайну з партызанамі, ЗША выслалі ў Паўднёвы В'етнам 15 тысяч уласных афіцэраў. Кожны дзень вайны ў Паўднёвым В'етнаме каштаваў Амерыцы звыш аднаго мільёна долараў. Забітых на долары не пералічыш. Усё гэта кідае святло на зацікаўленне, з якім Вашынгтон сачыў за ўчынкамі свайго сайгонскага выхаванка.

У апошні час выхаванак гэты ўзбуджаў у ЗША ўсё большае незадавальненне, бо замест таго, каб канцэнтраваць намаганні на барацьбу з камуністычным партызанскім рухам, ён займаўся збіваннем уласнага капітала і завострываў канфлікт паміж каталікамі і будыстамі.

Між часам Дзьем прысвоіў 22 мільёны долараў, якія ў рамках амерыканскай дапамогі мелі быць прызначаны для арміі. Не малыя сумы з гэтай дапамогі загарнула таксама сям'я Дзьема. Варта ведаць, што Дзьем уладарнічаў пры дапамозе сваіх братоў. А было іх нямала. Адзін з іх Нго Дзінь Нью быў шэфам паліцыі і ўсяе гаспадаркі. Другі брат — Нго Дзінь Дгуц — упраўляў унутраным і загранічным гандлем. Трэйці — Нго Дзінь Цан быў губернатарам сярэдняй правінцыі і чацвёрты — Нго Дзінь Тгуц — біскупам гэтай жа правінцыі. Урадуючую кліку дапаўняла жонка шэфа паліцыі, пані Нгу, якая камандавала парламентам, жаночай і маладзёжнай арганізацыямі. Кропляй, якая перапоўніла чарку грамадскай горычы і адсунула амерыканцаў ад клікі Дзьема, быў прыгнёт будыстаў. Вызнаўцы Буды складаюць 90% насельніцтва Паўднёвага В'етнама. Нягледзячы на гэта, Дзьем патураў каталікам, а будыстаў адпіхаў ад высокіх адміністрацыйных і вайсковых пасад. Яны не мелі нават права выконваць сваіх рэлігійных абрадаў. Вельмі галасна на ўсім свеце адбіліся выпадкі самаспалення будыстаў, якія такім страшэнным чынам пратэставалі супраць тыраніі. Увесь народ палаў нянавісцю да крывавага дыктатара. У такім становішчы яго ўлада магла ўтрымоўвацца толькі пры дапамозе 100-тысячнай паліцыі і адборнай прэзідэнцкай гвардыі, да якой прымаліся толькі каталікі. Пераварот даказаў, што нават і гэтыя людзі аказаліся не зусім вернымі Дзьему.

За кулісамі паўднёвав'етнамскага перавароту стаяць, зразумела, амерыканцы, якія дзеля ратавання сваіх пазіцый у гэтай краіне і вядзення больш эфектыўнай барацьбы супроць патрыятычнага партызанскага руху, вымушаны былі адмовіцца ад Дзьема. Зрэшты і сам пераварот праведзены паводле класічных метадаў Пентагона. Калі на рэйдзе Сайгонскага порта закінуў якары VII Амерыканскі флот, афіцэры — будысты маглі без боязі прыступіць да штурму палаца Дзьема. Такое развіццё здарэнняў перакрэслівае ўсе шанцы народа на развіццё дэмакратыі ў Паўднёвым В'етнаме. Новы рэжым, калі нават ліквідуе рэлігійны канфлікт, дык ні ў якім выпадку не адмовіцца ад братабойчай вайны супраць патрыятычных сіл. А гэта азначае, што ў Сайгоне адбылася толькі змена шыльды.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# У АГНІ ЗМАГАННЯ

**У сувязі з 40-годдзем Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі орган ЦК КПБ газета «Звязда» апублікавала артыкул, прысвечаны гэтай слаўнай даце. Артыкул змяшчаем з невялікімі скарачэннямі.**

Да ўтварэння КПЗБ на тэрыторыі Заходняй Беларусі нелегальна дзейнічалі арганізацыі Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, Камуністычнай рабочай партыі Польшчы і Камуністычнай партыі Літвы. Справа ўзмацнення рэвалюцыйнай барацьбы, умацавання сувязей з рэвалюцыйным рухам у Польшчы і ў Заходняй Украіне настойліва патрабавала стварэння на заходнебеларускіх землях адзінай Камуністычнай партыі. Гэта пытанне было разгледжана на II з'ездзе Камуністычнай рабочай партыі Польшчы, які праходзіў у верасні — кастрычніку 1923 года. З'езд прыняў рашэнне аб стварэнні на тэрыторыі Заходняй Беларусі нацыянальнай камуністычнай арганізацыі ў саставе Камуністычнай партыі Польшчы.

У канцы кастрычніка 1923 года ў Вільні нелегальна адбылася першая ўстаноўчая канферэнцыя прадстаўнікоў існаваўшых на тэрыторыі Заходняй Беларусі партыйных камітэтаў. Яна прыняла рашэнне аб стварэнні Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і выбрала Цэнтральны Камітэт. Выдатную ролю ў стварэнні КПЗБ, а таксама ў яе дзейнасці ў наступныя гады адыгралі А. Данялюк (Стэфанскі), С. А. Мерценс (Скульскі), А. С. Славінскі (Качароўскі), С. Т. Мілер (Шлёмка), І. К. Лагіновіч (П. Корчык), А. В. Канчэўскі, Л. Н. Аранштам, Н. С. Арэхва, А. М. Розенштайн, М. А. Блінчыкаў, І. Ф. Семенікоў і іншыя.

З самага пачатку сваёй дзейнасці КПЗБ была партыяй непрымірымай класавай барацьбы, яна адстойвала карэнныя інтарэсы працоўных. Камуністы ішлі на чале масавага забастовачнага руху рабочых, арганізавалі барацьбу сялян за зямлю.

Пад кіраўніцтвам КПЗБ не раз праходзілі забастоўкі пралетарыяту Беластока, Гродна, Вільні, Ліды, Пінска, лясных рабочых Белавежскай пушчы за павелічэнне заработнай платы, скарачэнне рабочага дня і іншыя надзённыя патрабаванні.

У апошнія передваенныя гады КПЗБ, як і ўся КПП, разгарнула вялікую работу па стварэнню шырокага народнага фронту барацьбы супроць нарастаючай пагрозы фашызму і вайны. У гэтых адносінах вялікае значэнне мелі рашэнні II з'езда КПЗБ, які адбыўся ў маі 1935 года. Праграма барацьбы з чорнымі сіламі фашызму, выпрацаваная партыяй, знайшла шырокую падтрымку сярод працоўных. Аб гэтым сведчаць масавыя рэвалюцыйныя выступленні працоўных у 1935 — 1937 гг.

У 1925 годзе пад непасрэдным уплывам КПЗБ узнікла легальная масавая арганізацыя пад назвай «Беларуская сялянска - рабочая грамада». За кароткі час грамада ператварылася ў магутную рэвалюцыйную арганізацыю сялян, якая налічвала ў сваіх радах больш як 100 тысяч членаў. Урад Пілсудскага ў пачатку 1927 года бязлі-

**(Працяг на стар. 4)**

# Хроніка

■ 29 кастрычніка прыехаў з візітам у нашу краіну славуты савецкі вучоны «бацька савецкіх спадарожнікаў» — прафесар Леанід Сядоў.

■ 29 кастрычніка выехала ў Алжыр польская ўрадавая дэлегацыя на чале з міністрам замежных спраў Адамам Рапацкім. Дэлегацыя ўдзельнічала ў святкаваннях 9-тай гадавіны алжырскай рэвалюцыі.

■ 29 кастрычніка прыбыла ў Парыж на запрашэнне ЦК ФКП дэлегацыя КЦ ПАРП пад кіраўніцтвам члена Палітбюро — Эдварда Охаба.

■ 1 лістапада ў СССР выстрэлены кіруючы касмічны апарат «Палёт 1».

■ 1 лістапада ў Сайгоне (Паўднёвы В'етнам) быў звержаны крывавы дыктатар Дзьем. Уладу ў свае рукі ўзяла вайсковая юнта.

■ 3 лістапада ў Маскве ўзяла шлюб пара савецкіх касманаўтаў Валя Церашкова і Андрыян Нікалаеў.

■ 28 і 29 кастрычніка прабывалі на Беласточчыне дырэктар Інстытута гісторыі партыі ЦК КПБ у Мінску Ніна Каменская і працаўнік гэтага Інстытута Вера Давыдава. Яны, між іншым, сустрэліся з вучнямі агульнаадукацыйных ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы, а таксама з актывістамі БГКТ у Беластоку.

■ 30 кастрычніка пабывалі на Беласточчыне (у сувязі з днямі савецкай культуры і навукі) І-шы сакратар пасольства СССР у ПНР Аляксей Шлеенка і саветнік пасольства Васіль Аўчароў.

■ 2 лістапада ў Беластоку створаны Ваяводскі камітэт па святкаванню Дня Настаўніка. Камітэт узначальвае І сакратар КВ ПАРП Аркадзь Лашэвіч.

■ 2 лістапада ў сувязі з 25-ай гадавінай дзейнасці Стронніцтва Дэмакратычнага ў Беластоку адбылася ўрачыстая акадэмія. Прысутнічала член прэзідыума ЦК СД, намеснік міністра вышэйшай адукацыі — Яўгенія Красоўская.

■ 2 лістапада ў Маскве адбылася прэм'ера першага шырокаэкраннага, каляровага, стэрэафанічнага, трохпамяровага кінафільма «Зечар у Маскве». На такі фільм глядзіцца праз спецыяльныя акуляры.

# Спорт

## На футбольным паўфінішу без перамен

Развіталіся мы з восеньскім кругам футбольнага чэмпіяната ў III лізе. Абмяркоўваючы сёлеташнія гульні, трэба перш за ўсё адзначыць, што і надалей не відаць узросту ўзроўню. І надалей мінусы ў выглядзе катастрафальнага становішча ў падрыхтоўцы і дрэннай працы з моладдзю не былі элімінаваны. Трэнерскія кадры на Беласточчыне далёкія ад сярэдніх, а што горшае — 5 III-лігавых клубаў не мае наогул трэнераў ці інструктараў. Хто тады мае вучыць новых узораў гульні, тэхнікі, хто мае кіраваць доўгахвалёвым вучэбным цыклам? Таму надалей на нашых стадыёнах мыназіралі ў футбалістаў адсутнасць тэхнікі і хаатычную гульню без ніякай тактыкі.

У Мазура з'явіліся новыя сапернікі — Гусар, Гвардыя і Влукняж. За плячыма чацвёртага заўзятае спаборніцтва вядуць ЗКС, Скра і Ожэл. Амаль усе гэтыя каманды прадстаўляюць вельмі падобны да сябе ўзровень гульні, а розняцца толькі стылем.

Цяжка цяпер прадбачыць, хто займе 2 і 3 месцы. Мінімальныя розніцы ў ачках паміж шматлікімі камандамі нічога дакладнага не гавораць. Гэты факт напэўна парушае спакой — хоць да вясны шмат яшчэ часу.

Падобны неспакой будзе спадарожнікам каманд, якія акупавалі ніжнія раёны табліцы (Вігры, ЛКС, Агніска, Сокул). Апошняя каманда — Сокул мае 4 ачкі, а ЛКС, які займае 10 месца — 6 ачкоў.

Аб лёсах усіх каманд вырашаць вясеннія баі. Трэба тады пажадаць футбалістам, каб як найлепш выкарысталі перапынак, каб, нарэшце, заслужылі на пахвалу. Да сустрэчы ў сакавіку!

**Л. Тарасевіч**




— Прозвішча?
— Панцелееў Рыгор Яфімавіч.
— Камуніст?
— Барані Бог.
— Дзе вы працуеце?
— Па паперах я лічуся аж за Калымой.
— Што значыць вы лічыцеся за Калымой?
— Дык я там пры леспрамгасе.
— Кім?
— Вартаўніком.
— А тут вы як апынуліся?
— Родны брат у мяне тут памёр, і я ад яго атрымаў у спадчыну домік з садам і агародам.
— Калі памёр ваш брат?
— Дзевятага лютага гэтага года.
— Вы сюды прыехалі калі?
— Чатырнаццатага сакавіка.
— Праз месяц пасля смерці брата?
— Ну але! Да мяне ж вестка аб смерці тры тыдні ішла. Факт. Вы ведаеце, дзе тая Калыма!
— А чаму вы раней не жылі тут з братам?
— Яго жонка, царства ёй нябеснае, цярпець не

9

магла мяне. А тыя далёкія месцы я не сам выбіраў.
— Як гэта не сам?
— Дык мяне, выбачайце, саслалі...
— За што ж гэта?
— Як вам сказаць... Працаваў я на лесазаводзе пад Казанню. І раптам пажар, завод згарэў. НКВД, зразумела тут як тут. Шкодніцтва, гавораць. І нас, хто ў тую змену працаваў, у ссылку.
— І вас судзілі?
— Куды там. Папыталі вось, як вы цяпер. А потым адразу ў поезд, у вагон з кратамі, і ту-ту...
— У вас ёсць пасведчанне?
— НКВД, пане начальнік, не пасведчанні даваў, а тэрміны. Я свой тэрмін яшчэ два гады назад адбыў. Жыў там ужо па вольнай.
— Што думаеце тут рабіць?
— Гандальком займуся. Народ гаворыць, што па-новаму, па-вашаму значыць, парадку гэта можна. Ці хлусяць людзі?
— Чаму хлусяць? Але што вы будзеце прадаваць?
— Рознае. Вайна ж расцярусіла людское дабро. Хто мае нешта прадаць, а хто тое і патрабуе. А я тут як тут. Камісія, адным словам, але не як-небудзь там налева, а па закону, згодна з патэнтам. Таму я і да вас прыйшоў.
— Так... так... Значыць, калі памёр ваш брат?
— Дзевятага лютага гэтага года.
— А калі вы прыехалі сюды?
— Я ж сказаў: чатырнаццатага сакавіка.
— Вось тут, Бабакін, мне здаецца, вы робіце па-

10

мылку. Дату смерці брата вы павінны ведаць назубок — з гэтым звязана ваша шчасце. А вось дату свайго прыезда сюды так дакладна называць не варта. Тут лепей сказаць: у сярэдзіне месяца. Так будзе больш натуральна.

— Чаму, таварыш падпалкоўнік? Дык для яго і дата прыезда звязана з тым жа шчасцем. У гэты дзень ён упершыню ўбачыць спадчынны дом.

— Падумайце, Бабакін, падумайце. Дык хто Панцелееў? Тупаваты і цёмны тып. Для яго кожная дата — гэта лічба, арыфметыка. Падумайце аб гэтым. Далей. Выкіньце славечка «факт». Яно не з лексікона Панцелеява.

— Улічу, таварыш падпалкоўнік.

— Не думаць аб такіх дробязях нельга. А наогул добра. Правільна, што ў яго няма вялікай злосці на НКВД. Дык сапраўды, ніякай асаблівай трагедыі з ім не здарылася. Працаваў на лесазаводзе пад Казанню, а трапіў на поўнач у леспрамгас. Мо', яму на новым месцы нават ляпей стала. І з пасведчаннем з НКВД вы прыдумалі здорава. Пабольш такіх вось знаходак.

Падпалкоўнік Маркаў аглядзеў Бабакіна. — І знешні выгляд ужо наблізіўся да нормы, толькі вось барודка надта акуратная.

— Адрасце. — Бабакін кіўнуў цераз плячо. — Што на фронце?

— Дрэнна... — Падпалкоўнік Маркаў падыйшоў да вісячай на сцяне мапы і паклікаў да сябе капітана Бабакіна. — Вось ужо дзе яны. Канчаткова зацверджана: наша база будзе вось тут.

11



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



Асенняе аранне
фота Ю. Рыбінскі

# БОЛЬШ ХІМІЧНЫХ СРОДКАЎ ДЛЯ АХОВЫ РАСЛІН

У будучым годзе наша сельская гаспадарка атрымае 82 тыс. тон розных прэпаратаў для аховы раслін часткова з імпарту, а часткова ўласнага вырабу. Большая іх частка — каля 70 тыс тон — гэта будуць сродкі для барацьбы са шкоднікамі на плантацыях прамысловых раслін — хмелю, ільну, рапаку і ў садах. Рэшта — гэта хімікаты для апрацоўкі зерня і барацьбы з пустазеллем.

Павелічэнне даставы хімічных сродкаў аховы раслін дазволіць ахапіць 60% засеваў, такім чынам будзе ахоплена барацьбой са шкоднікамі больш дзесяці мільёнаў гектараў. А супроць такіх шкоднікаў, як стонка, бураковы клоп, мошка ці шкоднікі рапаку, прыгатавана такая колькасць прэпаратаў, якая забяспечыць ад шкоднікаў увесь арэал засеваў. У будучым годзе сяляне засеюць больш 50% арэалу збожжа і каля 55% арэалу матыльковых апрацаваным зернем. Масавая дастаўка сродкаў для барацьбы з пустазеллем упершыню дае магчымасць ахапіць хімічнай «праполкай» не толькі мільёны гектараў збожжа і прапашных, але і сотні тысяч гектараў лугоў і паш.

У будучым годзе будзе таксама шырэйшы асартымент прэпаратаў. Між іншым сельская гаспадарка атрымае новыя камбінаваныя прэпараты, якія даюць яшчэ лепшыя вынікі.

Ахова ўраджаяў ад шкоднікаў дасць лепшыя вынікі і дзякуючы разбудове сеткі пунктаў хімізацыі сельскай гаспадаркі і штораз лепшаму забеспячэнню іх машынамі для апырсквання і апыляння раслін. Прадугледжваецца, што ў будучым годзе колькасць існуючых такога тыпу пунктаў павялічыцца яшчэ на 100. Такім чынам пад канец будучага года станцыі хімічнай абслугі будуць дзейнічаць у 260 паветах, а да палавіны 1965 года — у кожным павеце краіны.

## Сяброўская сустрэча

(Працяг са стар. 3)

ца, пазнаць свае клопаты, узаемныя патрэбы, пасябраваць — гэта нагода і мэта сустрэчы пры кубку чорнай кавы. Такія ж тоны праяўляліся ў выступленнях старшыні праўлення гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандра Іванюка, які адкрыў сустрэчу, у выступленні дырэктара ліцэя Анастасіі Тропак і сакратара ГП БГКТ Уладзіміра Юзвюка. Усе выказвалі сваё задавальненне, хвалілі ініцыятыву праўлення гайнаўскага аддзела. Смела можна спадзявацца, што пасля сустрэчы нашай арганізацыі ў Гайнаўцы прыбудзе шмат новых сяброў.

в.р.

# МАЛАДЫ СЕЛЯНІН

(Працяг са стар. 1)

поўнасцю супадаюць з напрамкамі развіцця сельскай гаспадаркі, сельскагаспадарчая палітыка — гэта здзяйсненне яго імкненняў, а маладое пакаленне з'яўляецца натуральным саюзнікам гэтай палітыкі.

Маладыя сяляне прадстаўляюць ужо ў дзейнасці ЗМВ акрэсленую плынь. Гэта старэйшае пакаленне, якое разбіраецца ў сур'ёзных эканамічных і грамадскіх праблемах вёскі, уносіць у дзейнасць ЗМВ найбольш важныя пытанні і зацікаўленні. У грамадах і паветах арганізуюцца клубы маладых сялян, якія заспакойваюць іх прафесіянальныя, грамадскія і палітычныя зацікаўленні, садзейнічаюць абмену вопытам, паглыбленню агранамічных ведаў і вядзенню дыскусіі на тэму шляхоў сацыялістычнай пабудовы вёскі.

Пленум ГП ЗМВ, які нядаўна абмеркаваў дзейнасць арганізацыі сярод маладых сялян, будзе мець сур'ёзнае значэнне ў развіцці не толькі грамадска-гаспадарчай дзейнасці Саюза, але таксама ў падняцці на вышэйшы ўзровень усёй ідэйна-выхаваўчай працы сярод моладзі, працуючай на сельскай гаспадарцы, а тым самым непасрэдна зацікаўленай у прыспяшэнні змен на лепшае ў вёсцы.

І. ОЛЬБРЫХТ

# ПРА АМБІЦЫІ

(Працяг са стар. 1)

— Рацыя, — адкажу я, — то яшчэ як заахвочвае!

Выходзіць, страшны мільён не прападае дарма...

Ды ўся справа ў тым, што гэты мільён пастаўлены на службу харавых, інструментальных, танцавальных гурткоў, якіх маем найменш, надта мала і ўвесь час мала. Урэшце, справа ў тым, што гаворачы «мастацкі гурток» мы заўсёды падразаем перш за ўсё драматычны гурток, менавіта, — п'есу, сцэнку, «камедыйку». Усведаміўшы гэта, аказваецца, што прафесіянальная дапамога Таварыства нашым аматарам выдалася вельмі блізкай нулю. Вядома, можна тут бараніцца ад такога «раптоўнага» нуля: што, маўляў, адбываюцца агляды, спрыяем абмену вопытам, запрашалі акцёра (раз — тры ў год) і... ну, і «Лявоніха» таксама ж, захацеўшы, паможа нядрэнна. Але якніяк усё гэта ўжо абарона. У гэтым месцы аб непаразуменні не можа быць і гутаркі. Ясна, да беласці ясна. Аматарскі рух у нашых вёсках — гэта перш за ўсё рух драматычных гурткоў. Велізарнасць гэтага руху з'яўляецца заслугаю... нацыянальнага характару беларусаў. Яго велізарнасць гвалтоўная, шпаркая і стыхійная. Людзі імкнуцца задаволіць свае спрадвечныя густы м.ін. у выглядзе бытавых, звычаёвых сцэнак — нярэдка грубых і нацягнутых для смеху. Вось у тым таямніца вялікага попыту на п'есу тыпу «Мікітаў лапаць». Вось у чым фактычная прычына нашых плачаў зверху над малаідэйнасцю ўнізе, у вёсках. Скажам шчыра, адным гаварэннем яшчэ ніхто нічога не выхаваў высокаідэйным і разумным. А мы пачынаем разважанні словам, не буркнуўшы пра тое, што так званая высокаідэйнасць раўназначная з высакамастацкасцю, з высокім узроўнем ігры аматараў. Трэба сцвердзіць, што пара ўжо задумацца нарэшце не над недахопам добрага рэпертуру, бо яго нам яшчэ хопіць па самую шыю, але над пытаннем выхавання кадраў арганізатараў драматычных гурткоў. Іменна драматычных гурткоў. Гэта асноўная, падставовая ўмова рэальнасці нашага лозунга: «П'еса — ідэалогія».

Для папулярызацыі высокаідэйнай масавай песні патрэбна цікавая мелодыя. Але, каб папулярызаваць жыццёвую п'есу, трэба, як бачым, значна больш. Пры аказіі хачу звярнуць увагу чытача на наступную з'яву: аматары стараюцца іграць такую п'есу, якой не іграў ніводзін навакольны гурток. (Факт бясспрэчны і зразумелы). Дык чаму ж насуперак гэтаму іграюць найчасцей усім вядомыя ўжо аж да дробязей адны і тыя ж камедыі? (Няма выбару). Бо гэта ім пад сілу — лягчэй строіць глупца на сцэне, чым цікава паказаць нешта сур'ёзнае. Яны ведаюць: нават найбольш жыццёвы паказ, але паданы нудна і няўмела, публіка не вытрымае, разыдзецца ў палавіне першага акта. Адсюль вывад адзін: пабольш камедый, добрых камедый, адначасова не пазбаўленых некаторага прымітывізму таму, каб часамі не былі да іх «за высокія парогі». На штосьці большае мы не здольны ў сучасны момант — нашы амбіцыі пазбаўлены рэальнасці і пахнуць ідэальнай рацыяй.

САКРАТ ЯНОВІЧ

# СКРЫЖАВАННЕ ЗУБРА З КАРОВАЙ

У лясным закутку Белавежы, укрытым ад вока турыста, праводзіць свае доследы Інстытут Гадоўлі Млекакормячых. Нарэшце, пасля доўгіх няўдач, удалося тут скрыжаваць дзікага зубра з каровай. Нягледзячы на знешняе падабенства, скрыжаванне так далёкіх адна ад другой груп жывёлы здараецца даволі рэдка. Калі нават і ўдаецца, дык патомства, як, напрыклад, мулы (скрыжаванне каня і асла) бываюць бясплодныя.

Аднак доследы, распачатыя шматгадовым кіраўніком Інстытуту, нядаўна памершым праф. Данелем, далі цудоўныя вынікі. Нарадзілася ўжо другое пакаленне ад скрыжавання зубра з каровай. Памесь зубра з каровай зноў была скрыжавана з хатняй жывёлай. Аб цяжкасці выхавання гэтых памесяў сведчыць факт, што і тут выступае канфлікт крыві, вядомы і ў людзей. Цяпер у інстытуце сістэматычна вядзецца нагляданне за зменай складу крыві ў чарговых пакаленнях. Помесі характарызуюцца хуткім ростам. За 14 месяцаў помесі (як ад нізіннай чорна-белай пароды кароў, так і чырвонай польскай) дасягаюць вагі 600 кг. Каровы ж гэтай вагі дасягаюць толькі ў трэцім годзе жыцця і то ў выпадку вельмі добрага кармлення.

Сваім выглядам рослыя помесі не нагадваюць ні зуброў, ні кароў, ад якіх паходзяць. Яны маюць роўны цёмнакарычневы колер, некаторыя амаль чорны, з шырокімі ілбамі і моцнымі раскладзістымі рагамі. І што цікава — няма розніцы паміж помесямі, якія паходзяць ад такіх розных парод, як нізінная чорна-белая і чырвоная польская.

Зубрыха, равесніца помесяў, якая ходзіць у адным статку з імі, выглядае пры іх мізэрна. Калі пры такім скрыжаванні можна будзе ўмацаваць такія карысныя рысы для гадоўлі на мяса, гэта можа прывесці да ўтварэння новай пароды, вядома, пры значным яшчэ ўкладзе працы.

**Два пакаленні помесяў: 14-месячны — з 50% крыві зубра і шасцітыднёвы — з 25%.**



СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# АДКОРМ НА МЯСА

Маім землякам так падабаецца свіная смажаніна, што яны зусім забываюцца аб ялавічыне. Цяляціна яшчэ так сабе, патрэбна для дзяцей і хворых. Але калі цяля зробіцца каровай, тады ўжо яе вартасць як мяса невялікая.

Аднак часта наглядаецца разрыў паміж жаданнямі і прызвычаеннем з аднаго боку і магчымасцямі — з другога. Усё гаворыць за тое, каб у нас на стале часцей з'яўлялася ялавічына.

У нашым ваяводстве асаблівага значэння набывае адкорм цялят, якія не надаюцца на гадоўлю, і кароў, прызначаных на мяса. Узнікае нават патрэба перагледзець мясныя пароды бугаёў (найлепшыя англійскія герафорды і шартгорны), каб палепшыць мясныя якасці нашай рагатай жывёлы.

Лічу патрэбным падаць некалькі асноўных правіл адкормлівання жывёлы на мяса.

Цялятам, прызначаным на мяса, трэба даваць менш малака, а як мага больш прызвычайваць іх да сухіх і сакавітых кармоў (добра даваць моркву, бручку, кармавыя буракі). Паўгадовыя цяляты (бычкоў каструюць у два месяцы) павінны важыць 130 кг, а ў 18 месяцаў — 420 — 450 кг. Трэба старацца як мага лепш выкарыстаць на адкорм летні сезон, бо галоўная задача — дабіцца вялікай вагі цялят пры дапамозе танных кармоў.

**Кармленне цялят:** тлустае малако даем да 5 тыдняў (ад 6 да 2 літраў), худое малако — ад 2 да 16 тыдняў, драблёны ячмень — ад 4 да 7 тыдняў (300—400 гр), канцэнтраваныя кармы — ад 4 тыдня (500—2000 гр) і сена — колькі хочуць.

**Кармленне ялошак і бычкоў:** 2—3 кг сена, 15—30 кг прапашных і сіласу (зімой) і толькі на пашы летам. Канцэнтраваныя кармы даем толькі на пачатку гадоўлі, калі арганізм цяляці пры хуткім росце патрабуе шмат бялкоў.

**Кармленне на мяса кароў** (грузлічных, ялавых, малаўдойных). Справа ў тым, каб кароў, прызначаных на рэзь, адкарміць, павысіць якасць мяса. Калі адкорм прыпадае летам, тады асноўны корм — паша. Зімой даем высаладкі, вывары, пульпу, сілас, салому, трохі горшага сена, крэйду і соль. Пад канец адкорму даць трэба 1—1,5 кг канцэнтраваных кармоў. Пры такіх умовах штодзённы прырост вагі каля 1 кг.

У гэтым годзе на Беласточчыне на ўбой прызначана 33.000 тон жывой вагі (у 2,5 разы больш, чым раней). У бліжэйшыя гады ялавічына будзе складаць 50% даставленага мяса. Галоўным дастаўшчыком будуць беластоцкія ПГР-ы.

Інж. М. Сухажэбрскі

 

## Вітаміны бадзёрасці

Рэкамі вітамінаў бадзёрасці назвалі казахскія вучоныя патокі паветра, што сцякаюцца з гор Цянь-Шаня ў раёне сталіцы гэтай рэспублікі Алма-Аты. Шматгадовымі даследваннямі ўстаноўлена, што пакрытыя вечнымі снягамі высокія хрыбты, ля падножжа якіх ляжыць горад, выконваюць ролю каласальнага прыроднага вентылятара.

Пасля захаду сонца з гор на вуліцы Алма-Аты ўрываецца халаднаватае паветра, насычанае азонам і адмоўна зараджанымі аэраіёнамі, якія вучоныя вобразна называюць вітамінамі бадзёрасці. Гэтыя аэраіёны сцякаюць з мільярдаў хваёвых ігліц Цянь-шаньскіх ёлак, што пакрываюць горы. А з надыходам раніцы вентылятар пачынае дзейнічаць у адваротным напрамку — выконваць ролю гіганцкага прыроднага пыласоса. Паветраныя патокі ў гэты час сутак нясуць у горы воблакі пылу і дыму.

**Жыць, гэта не значыць дыхаць: гэта значыць дзейнічаць. Не той чалавек больш усяго жыў, які можа налічыць найбольш год, а той, хто больш усяго адчуваў жыццё.**

**Жан Жак Русо** (1712 — 1778) — выдатны французскі мысліцель.




**...што раствoранай у морах і акіянах соллю можна было б засыпаць усю сушу пластом таўшчынёй у 153 метры.**



## Від са штучнай гары

**Адзін з самых вялікіх помнікаў будыйскага мастацтва — гіганцкае свяцілішча Барабудур на інданезійскім востраве Ява. Гэта складзеная чалавекам гара з камення, пабудаваная на пачатку нашай эры. Аздабляюць яе 504 статуі і 1.400 барэльефаў. З вяршыні гэтага свяцілішча відаць цэнтральная даліна вострава Ява з высокімі вулканічнымі пікамі. (ся)**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## АПЕРАЦЫЯ „ДЗІКАЯ СВІННЯ"

Дзве постаці прысела на кукішкі ля агню ў кустах. Штосьці жуюць. Аўтаматы ляжаць на зямлі. У цемры чуваць чыйсьці слабы енк. Феры паглядзеў на фосфарны цыферблат гадзінніка і прабурчэў:

— Бепо, цяпер твая чарга.

Джо трэба змяніць. Бепо бясшумна знік. Праз паўгадзіны прыпоўз у кусты Джо.

— Што чуваць? — азваўся Феры.

— Пагоня згубіла наш след, — кажа Джо. — Нашы хімікаты збіваюць спанталыку нават найлепшых сабак... Чаго стогне Бор? Ён павінен вытрымаць яшчэ тры дні.

Бор зламаў нагу, ляжыць у ялінавай будзе. Жаль, што так здарылася з ім — Бор дасканалы спец ад «ціхай» ліквідацыі пастоў.

Джо, Бор, Феры, Бепо, — гэта амерыканскія салдаты дзесятай групы атрада спецыяльнага прызначэння. (10 Special Forces Group-Airborne). Джо — іх камандзір і праўдзівы амерыканец. Феры — гэта Ферэнц Шварч, венгер, служыў у венгерскіх эсэсаўскіх атрадах «SS-Kavaleriedivision Ungarn». Бор — гэта Габор Вас, таксама венгер, бяглец, удзельнік кантррэвалюцыі 1956 года. Бепо — гэта Йозаф Мушылек, чэх, былы найміт каланіяльнай Легіі.

У гэту ноч знаходзяцца яны на манеўрах у Верхняй Баварыі. Крыптонім аперацыі — «Дзікая свіння». Іх заданнем з'яўляецца дыверсія і сабатаж — знішчанне дарог, ліній сувязі; узрыванне мастоў, баз, складаў.

Лойн Норман, рэпарцёр амерыканскага часопіса «Н'юсвік», даказвае, што ў выпадку вайны з аэрадромаў Заходняй Германіі падымуцца ў паветра цэлыя раі транспартных самалётаў, якія паляцяць на ўсход, панад вялікімі ляснымі абшарамі Савецкага Саюза. Уніз апусцяцца на парашутах людзі тыпу Бора ці Джо і пачнуць сваю дыверсійную дзейнасць, па радыё навяжуць сувязь з далёкімі заходнееўрапейскімі базамі. Словам, пачнецца рэалізацыя даўно вывучанай аперацыі «Дзікая свіння».

* * *

Да ліку ваенных вучэнняў пры практыкаванні аперацыі «дзікай свінні» належыць, так званае, вучэнне голаду. Салдат пазнае гатункі раслін, прыдатных для ежы або лячэння. Пад час практычных заняткаў атрады альбо знаходзяць ядомыя травы і зелле, або проста галадаюць. Карыстацца палявымі кухнямі забаронена.

Нядаўна да Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі перайшоў Рэмо Арт, былы парашутыст спецыяльных атрадаў бонскага бундэсвера. Ён расказвае: «У нас рэгулярна адбываліся практычныя заняткі ў лясах у Шынгаў. Карміліся мы печанымі чарвякамі, лісцямі, карэннямі. Тым не менш, на вачах галадаючых рэкрутаў нашы інструктары атрымлівалі нармальныя харчы.

Адразу пасля практычных заняткаў салдаты часта праходзяць, так званае, вучэнне адвагі, якое трывае чатыры гадзіны. Каб адвучыць баяцца вышыні, вады і ран, салдат павінен улезці на высокае дрэва. На верхавіне знаходзіцца бэлька даўжынёю 8 метраў і таўшчынёю 25 см. Пасярэдзіне яе замацавана лесвіца з трыма малымі ступенькамі, цераз якую трэба перайсці. У канцы бэлькі коса ідзе ўгору чатырохметровы канат, па якім неабходна ўскарабкацца на другі канат, працягнуты па-над глыбокай рэчкаю. У поўным узбраенні салдат караскаецца менш-больш да сярэдзіны ракі і па камандзе скача ў ваду (вышыня каля 10 м). Пасля гэтага ён можа ўжо ісці есці і адпачываць.

Каб утрымаць сляпую дысцыпліну, прыдумана, між іншымі, кара «малпінай стайні». Яе канструкцыя настолькі «хітрая», што выглядае на звычайную скрыню, але замкнуты ў ёй салдат не можа нармальна стаяць, ні ўкленчыць, ні сядзець, ні ляжаць. За суткі чалавек змучыцца да таго, што не ў сілах варухнуць пальцам.



**Вучэнне скрытнага забойства. На здымку відаць манекен чалавечай галавы, якой інструктар выдзірае вочы і душыць.**

Падобныя «метады» ў свой час былі ўжываныя ў гітлераўскай дыверсійнай дывізіі «Брандэнбург», у эсэсаўскіх спецыяльных атрадах і японскай імператарскай арміі.

а-ся

ВЕСТКІ, БССР

## ТВОРЦЫ НОВАЙ ТЭХНІКІ

Пятнаццаць год назад, на былой станцыі механізацыі (цяпер на яе базе створаны Цэнтральны навукова - даследчы інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР), пачаў сваю дзейнасць, тады яшчэ малады вучоны, сын каваля з палескай вёскі Міхаіл Мацэпура. Яго марай было асушэнне палескіх балот і пераўтварэнне іх ва ўрадлівыя землі. У тую пару гэта мара шматлікім здавалася нязбытнай і фантастычнай.

Вырашэнню гэтай жыццёва важнай праблемы і пасвяціў сябе Міхаіл Мацэпура.

...Забалочаныя землі ў Беларусі асушаліся і раней. Рабілася гэта пры дапамозе экскаватараў, а то і проста, людзі бралі ў рукі лапаты і, стоячы па калена ў вадзе, пракапвалі равы. Міхаіл Мацэпура шмат думаў аб тым, як усю гэту цяжкасць перакласці на плечы машын.

Але як пусціць машыну па балоце, калі ў ім не тое, што чалавек, а нават звер часам праваьваецца? У інстытуце была створана спецыяльная лабараторыя па вывучэнню нясучай здольнасці розных грунтаў. Пераадольваючы адну цяжкасць за другой, у інстытуце нараджаюцца новыя канструкцыі машын. Кожная з іх простая па будове і па-свойму арыгінальна.

Летам 1962 года адбылася навуковая канферэнцыя інстытута. Удзельнікам канферэнцыі патрабавалася тры дні толькі для таго, каб аглядзець тэхніку, створаную інстытутам за апошнія гады. Працаўнікі інстытута дэманстравалі яе на жывёлагадоўчых фермах калгасаў і саўгасаў, дзе ўсе працы выконваюцца машынамі. Механізацыя вытворчых працэсаў у жывёлагадоўлі ў дзесяткі раз павышае прадукцыйнасць працы людзей. Так, на ферме калгаса імя Войкава, Мінскага раёна, дзе на змену ручной працы і коннаму транспарту прышлі машыны, колькасць працаўнікоў на ферме скарацілася больш чым напалову. А дзякуючы комплекснай механізацыі, на свінаферме ў саўгасе «Волма» таго ж раёна, адзін чалавек лёгка спраўляецца з працамі па догляду і кармленню трох тысяч свіней.

...Яшчэ да нядаўна існавала думка, каб асвоіць участак зямлі, зарослы карчамі, трэба было спачатку вырубаць карчы, выкарчаваць карэнне і толькі потым араць.

Міхаіл Мацэпура называе гэты метад варварскім.

— Мала таго, — гаворыць ён, — што гэты метад працаёмкі і дарагі, пры ім самы ўрадлівы слой зямлі, амаль напалавіну ўносіцца разам з карэнішчамі карчоў.

У сувязі з гэтым вучоны запрапанаваў заворваць карчы.

За распрацоўку тэхналогіі і стварэнне комплекса машын для асваення зямель, зарослых карчамі, Міхаіл Мацэпура ўзнагароджаны Ленінскай прэміяй.

— Наша найбліжэйшае заданне, — гаворыць Міхаіл Мацэпура, — зрабіць сельскагаспадарчую вытворчасць такой жа аўтаматызаванай, як і прамысловасць.

Г. ЛАЗАРАЎ



Кустарэз «КБ—4» ▶

## СЛЯДЫ ЦЯЖАРНАСЦІ

Каб не атрымаць так званыя «палосы цяжарнасці» на скуры жывата і ног пасля родаў, а ў некаторых жанчын і на грудзях, трэба ўжо на трэцім месяцы цяжарнасці рабіць зусім лёгкі масаж скуры з тлустым ланалінавым крэмам, пакуль скура не ўбярэ ўвесь крэм. Утвораныя палосы вельмі цяжка знішчыць. Іх можна зменшыць энергічным масажам, робячы кругападобныя рухі ў вобласці жывата, а на нагах — ад калена ўверх дзвюма рукамі, змазаўшы іх папярэдне крэмам. Адна рука пры гэтым ідзе за другой.



 

